


# Вэсткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 4(662)**
**Красавік 2021 г.**


# Сьвяткаваньне Дня Волі ў Саўт-Рывэры

У суботу, 27 сакавіка 2021 году, адбылося супольнае сьвяткаваньне Дня Волі беларускімі арганізацыямі рэгіёну Нью-Ёрк—Нью-Джэрзі—Пэнсыльванія. Сьвяткаваньне адбылося ў Грамадзкім цэнтры пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі. На сьвяткаваньне зьехаліся беларусы з розных штатаў, нягледзячы на пагрозу, што надалей уяўляе карона-вірус.

Напачатку імпрэзы Тацяна і Валянцін Дзямешчыкі, музыкі-выканаўцы беларускіх сьпеваў, прывіталі прысутных у Грамадзкім цэнтры, распавялі пра тую працу, якую пакінулі нам папярэднія пакаленьні беларусаў. Затым вядучая імпрэзы сп-ня Натальля Федарэнка, старшыня БАЗА, павіншавала прысутных ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і распавяла пра парадак дня сьвяткаваньня. Яна дала слова Старшыні Беларускага Народнага Фронту сп. Зянону Пазьняку. Ён павіншаваў прысутных з найвялікшым беларускім сьвятам і спыніўся на той ролі, якую адыграла дата 25 Сакавіка ў беларускай гісторыі. Прамоўца пачаў ад часоў Кастуся Каліноўскага і пытаньня нацыянальнага самаакрэсьленьня для беларусаў. Самаахвярнасьць і мужнасьць змагароў супраць расейскага паняволеньня пазьней перадалася адраджэнцам наступных часоў і знайшла свой вынік у складаныя часы Першай сусьветнай вайны і рэвалюцыі, калі былыя калёніі эўрапэйскіх імпэрыяў сталі вызваляцца і займаць сваё месца сярод незалежных дзяржаваў. Тады Беларусь у найскладаных умовах здолела абвесьціць сваю незалежнасьць, якая пратрывала нядоўга, але адчыніла дарогу для змаганьня наступным пакаленьням. І ў выніку паўстала незалежная Беларусь, хоць неўзабаве яна была захопленая падступнымі антынацыянальнымі сіламі. Але змаганьне працягваецца і цяпер набірае беспрэцэдэнтную моц. Ёсьць усё ў нас для нармальнага жыцьця, маем цудоўных людзей, прыгожую зямлю, выдатную гісторыю, але няма ў нас пакуль што свабоды. І вось цяпер народ бароніць сам сябе. Больш няма на каго спадзявацца. Сьцяг, што быў дзяржаўным тры гады, цяпер вяртаецца, ён стаў усьведамленым сымболем для мільёнаў людзей. "Гэты рэжым, нягледзячы на рэпрэсіі, з грукатам і пылам абваліцца, і над усёй краінай будзе лунаць наш нацыянальны сьцяг і загучыць наш нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі!", і заўжды яны будуць сымболямі нашай свабоды і незалежнасьці. Жыве нашая свабода! Жыве Беларусь!"

Перад прысутнымі выступіў адзін з найбольш актыўных грамадзкіх дзеячаў старэйшага пакаленьня сп. Янка Запруднік. Ён распавёў пра плён дейнасьці папярэдніх пакаленьняў, якія тут, у Амэрыцы, далі магчымасьць нам працягваць сваё нацыянальнае і рэлігійнае жыцьцё як беларусам. І цэрквы сталі ня толькі дамамі малітвы, але і супольнасьцю, што лучыла людзей. Трэба пасьлядоўней прыцягваць новых людзей, што прыехалі зь Беларусі нядаўна і працягваюць прыяжджаць цяпер, да грамадзкай дзейнасьці. Бо воля вымагае высілку, штодзённай працы, вымагае прыкладу для іншых. Вечнасьць нацыі, народу, залежыць ад кожнага з нас".

Затым з прывітальнымі словамі да грамады выступілі Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, рэдактар газэты "Беларус" сп-ня Ганна Сурмач. Ад імя прысутных сп-ня Натальля Федарэнка, старшыня БАЗА, прывітала былога рэдактара газэты "Беларус", а цяпер рэдактара бюлетэня "Весткі і Паведамленьні" і альманаха "Беларус" сп. Марата Клакоцкага, а таксама прадстаўнікоў Грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры Колю Бахара, Тацяну Дзямешчык і Вадзіма Васільева.

Пасьля адбылася мастацкая частка, падчас якой музыкі, спадарства Дзямешчыкаў, выканалі песьні "Я ня ганю зямлі чужыя" на словы Г. Бураўкіна, "Мой родны кут" Я. Коласа, "Купалінку", "Беларусачку". Затым прыгучалі "Пагоня", "Простыя словы" і "Магутны Божа". Прагучалі таксама вершы: "Я – Беларусь, я чорная зямля" Ў. Караткевіча ў

*заканчэньне на бачыне 4*



# Мова і культура ў час грамадзкага ўздыму ў Беларусі

Вось ужо, лічы, больш як паўгады Беларусь жыве па новым календары, календары грамадзкага ўздыму і, на думку многіх, рэвалюцыйнага часу. І сапраўды, грамадзкі ўздым ёсьць беспрэцэдэнтны і можа зраўняцца толькі хіба з уздымам пачатку 1990-х гадоў, вынікам якога стала незалежнасьць Беларусі.

Амаль што за адну ноч Беларусь зрабілася іншай краінай, людзі нібыта цалкам перагледзелі сваё стаўленьне да дыктатуры. І, відавочна, шмат тых, што раней галасавалі за Лукашэнку, зрабіліся ягонымі апанэнтамі. Ад сталіцы і да найдробных мястэчак і нават вёсак пракацілася хваля пратэстаў супраць шматгадовага непадзельнага, амаль манархічнага панаваньня Лукашэнкі й ягонага кляну ў краіне. Бел-чырвона-белыя сьцягі сталі неад'емнаю часткаю пратэстаў, на бел-чырвона-белыя колеры сталі фарбаваць усё, што толькі можа засьведчыць пра палітычныя перавагі насельнікаў – ад асфальту і лаваў у парках да трансфарматараў і ваданапорных вежаў. Цяпер наўрад ці хто застаўся недасьведчаны пра тое, якія нацыянальныя сымболі мае Беларусь – як у самой краіне, так і ў большасьці міжнароднай аўдыторыі, што сочыць за бягучымі міжнароднымі падзеямі, ведаюць што гэта бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". Сьціхлі размовы пра тое, што ў будучай Беларусі будзе нейкі новы, "нічым не заплямлены", сьцяг.

Такім чынам, справа нацыянальных сымболяў вырашаецца, так бы мовіць, сама сабою, нягледзячы на шалёны націск афіцыйных лукашысцкіх мэдыяў, марна і абсурдна спрабуючых спалучыць беларускі нацыянальны сьцяг са злачынствамі нацыстаў у Беларусі падчас Другой Сусьветнай вайны. Дэманстрацыі скрозь ідуць пад нацыянальнымі сымболямі, нацыянальныя колеры можна бачыць паўсюль.

Горш стаіць справа з нацыянальнай мовай. Пытаньне пра тое, якая мова будзе ў будучай вольнай Беларусі дзяржаўнай, робіцца шмат для каго "гарачай бульбінай". Шэраг прадстаўнікоў груповак і рухаў, што высунулі кандыдатаў на сёлетнія прэзыдэнцкія выбары, сталі казаць пра "заўчаснасьць" выстаўленьня пытаньняў пра мову ў вольнай Беларусі, пра "небясьпеку падзелу па моўнай прыкмеце", пра "недэмакратычнасьць" размоваў пра тое, што беларуская мова павінна заняць належны пасад у сваім нацыянальным доме – адноўленай незалежнай Беларусі. Насьцярожвае, што падобныя размовы вяліся і шмат гадоў таму, акурат перад катастрофаю прыходу Лукашэнкі да ўлады. Тады ачуняўшая посткамуністычная намэнклятура зрабіла ўсё, каб не дапусьціць разьвіцьця Беларусі як незалежнай краіны, каб мацней прывязаць яе да расейскай вялізнай калымагі, пазбавіць уласнага шляху і ўласнай будучыні. Адной зь лініяў іхнага ачмурэньня насельніцтва стала крытыка надзвычай лагоднага і талковага Закону аб мовах у Беларусі, маўляў, гэта гвалт над асобаю і прымус вывучэньня непатрэбнай мовы.

Лукашэнка прыйшоў да ўлады часткова ў выніку гэткага вось ачмурэньня. І адразу ўзяў курс на вынішчэньне ня толькі ўсіх заваёваў беларускіх нацыянальных сілаў канца 1980-х—пачатку 1990-х гадоў, але і на скасаваньне дзялянак беларускай мовы і культуры, што існавалі нават у савецкія часы. Няўмольна скарачалася доля беларускамоўных школаў. Быў зьліквідаваны Беларускі ліцэй, кузьня маладых талентаў. Газэты пераводзіліся на расейскую мову, тое ж сталася з нацыянальным радыё- і тэлевяшчаньнем. Паўсюль непадзельна стала весьці рэй расейшчына. У дадатак да гэтага праз сыстэмы кабельнай і спадарожнікавай тэлевізіі ў кожны амаль беларускі дом прыйшлі расейскія мэдыі, шавіністычныя тэлевізійныя каналы парасейску. Зьмяншалася фінансаваньне беларускамоўнага выдаўніцтва кнігаў і часапісаў, беларуская мова выціскалася з грамадзкай сфэры і справаводства. Дасюль у краіне няма аніводнай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы. Агулам кажучы, у час 26-гадовага пэрыяду кіраваньня Лукашэнкі беларускай мове і беларускай культуры нанесены такі ўдар, якога яны не перажывалі хіба ад часоў сталінскіх рэпрэсіяў другой паловы 1930-х гадоў.

Безумоўна, гэтая несправядлівасьць мусіць быць выпраўленая і беларуская мова павінна быць абвешчаная адзінай дзяржаўнай мовай у краіне. Аднак цяпер гэтае пытаньне ўсяляк гамуецца і замазваецца. Усё чутней галасы "непрадрашэнства": маўляў, перш трэба перамагчы, стаць на ногі, а там некалі ўжо і за мову можна будзе ўзяцца. Цяжка чакаць ад такіх "непрадрашэнцаў" падтрымкі для беларускай мовы. Цяжка спадзявацца, што людзі, якія ўжо цяпер заяўляюць пра "правы расейскамоўных", стануць рупіцца адносна правоў беларускамоўных жыхароў у сваёй краіне Беларусі. Напэўна, "зручнасьць" і "камфорт" могуць узяць верх, як гэта адбылося ў 1994 годзе, калі Лукашэнка стаў прэзыдэнтам. І тое, што стаўленьне да дыктатуры ў людзей памянялася, але ў той жа час не памянялася нэгатыўнае стаўленьне да беларускай мовы – таксама непакоіць і хвалюе.

Але што, як не нацыянальная мова і культура ёсьць падставаю дынамічнага і гарманічнага разьвіцьця нацыі й краіны, што, як не яны ёсьць найлепшай гарантыяй сувэрэнітэту, узаемадапамогі й еднасьці жыхароў краіны, патрыятызму і нацыянальнай сьведамасьці?

Бо што ёсьць нацыянальная сьведамасьць, як не сыстэма каштоўнасьцяў, прамоўленых ісьцінаў, якія ўважаюцца за адзіна сапраўдныя, непадлеглыя абмеркаваньню й рэвізіі? Гэта сыстэма каштоўнасьцяў, на якіх чалавек будуе свой сьветагляд і праз аналіз узьдзеяньня на каторыя вырашае, якую пазыцыю заняць па тым або іншым пытаньні, датычным сфэры адукацыі, грамадзкіх адносінаў, палітыкі, падзеяў з міжнароднай арэны ды шмат чаго болей. Каштоўнасьці, якія шмат хто яшчэ ўважае ніжэй за каўбасу, "за чарку і скварку", насамрэч ратуюць і бароняць. Колькі матак, сясьцёр і дачок выплакалі б свае вочы, калі б беларусы, нечыя бацькі, сыны і браты, мусілі браць удзел і класьці свае галовы ў канфліктах і войнах Расеі ў Абхазіі, Чачэніі, Грузіі, Украіне, а цяпер і ў Сырыі, Лібіі? Колькі б апынуліся безабароннымі перад алігархічным рабаваньнем і распуснай зладзейскай карупцыяй, каб Беларусь засталася пад Расеяй? Беларуская Незалежнасьць, нават апляваная і згвалтаваная Лукашэнкам, не дапусьціла да гэтага. Але цень гэткай альтэрнатывы застаецца вісець над нашым народам. Безумоўна, Пуцін і ягонае атачэньне пільна сочаць за падзеямі ў Беларусі, спадзеючыся паўтарыць свой падступны гамбіт узору 2014 году з Украінай.

Непакояць таксама рэвэрансы шмат якіх цяперашніх дзеячаў убок Расеі, нават згода на працяг удзелу ў падступных расейскіх праектах, такіх як "саюзная дзяржава" і "калектыўная бясьпека". Уяўляюцца зусім бязглуздымі й амаральнымі усхваленьні Пуціна як вартага даверу палітыка, што можа, нібыта, паспрыяць вызваленьню Беларусі ад валадараньня Лукашэнкі. Ваўка, парадаксальна, лічаць найлепшым арбітрам, каб пазбавіцца ад лісы. І што іншае, як ня брак стрыжню, брак нацыянальных перакананьняў, адсутнасьць сваёй адмысловай сыстэмы каштоўнасьцяў робяць мажлівымі гэткія заявы.

Што ж можа беларускі народ супрацьставіць сёньня як рэпрэсыўнаму апарату рэжыму Лукашэнкі, так і шавіністычным апэтытам расейскага карумпаванага кіраўніцтва? Толькі сваё адзін-

*заканчэньне на бачыне 3*

# 100 год беларускім арганізацыям у Амэрыцы

Сёлета спаўняецца 100 год з пачатку дзейнасьці беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Злучаных Штатах. Увесну 1921 году ў Нью-Ёрку была заснаваная арганізацыя, атрымаўшая назоў "Беларускі Нацыянальны Камітэт", якая задэкляравала сярод сваіх мэтаў бараніць незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі (што было актуальна ў час Рыскіх перамоваў між саветамі й палякамі), пашыраць выданьні пабеларуску сярод беларускага грамадзтва, інфармаваць аб падзеях у Беларусі й дапамагаць матэрыяльна землякам. Да таго часу ў ЗША існавала досыць шмат арганізацыяў, у якіх вялікую колькасьць, а нават і большасьць складалі беларусы – выхадцы з заходніх губэрняў Расейскай імпэрыі, што ўважалі сябе не прадстаўнікамі асобнага беларускага народу, але сябрамі "беларускага племя", этнаграфічнай групы ў межах расейскага народу, які, па афіцыйнай ідэалёгіі царскіх часоў, быў "трыадзіным" і складаўся зь "вяліка-", "мала-", і "беларосаў". Арганізацыі тыя мелі ў сваіх назвах слова "рускі", часам называліся ў гонар Пушкіна або Чэхава. Дзейнасьць тых арганізацыяў абмяжоўвалася падтрымкаю расейскіх культурніцкіх і дапамаговых ініцыятываў, а пазьней шмат з гэтых арганізацыяў перайшлі на пазыцыі патрымкі бальшавіцкага рэжыму, і былі інфільтраваныя савецкімі агентамі.

Тады разам з Беларускім Нацыянальным Камітэтам пачалі працу таксама Беларускае прэсавае бюро і Беларускі камітэт у Браўнзвільлі (Бруклін, Нью-Ёрк). Начале гэтых арганізацыяў стаялі нацыянальна сьведамыя беларускія дзеячы: Сьцяпан Бубешка, Мікола Гайдук, Міхал Зварыка. Безумоўна, зьмены ў нацыянальных настроях часткі беларускіх імігрантаў адбыліся пад узьдзеяньнем навінаў пра рэвалюцыю ў Расеі, стварэньне шэрагу нацыянальных дзяржаваў на заходніх крэсах былой імпэрыі і абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) ў сакавіку 1918 году. Рада БНР была досыць актыўнай у кантактах з урадамі вялікіх дзяржаваў, у тым ліку і ЗША. У кастрычніку 1918 году кіраўнікі Рады БНР Язэп Лёсік, Аркадзь Смоліч і Пётра Крэчаўскі, зьвярнуліся да прэзыдэнта Вільсана з просьбаю аб дапамозе ў забясьпечаньні статусу незалежнай дзяржавы для Беларусі. Нажаль, у звароце не было згадана аб прысутнасьці ў Амэрыцы соценьтысяч беларусаў, і ў выніку зварот ня меў рэальных наступстваў. Пэўны ўплыў на ўтварэньне нацыянальных беларускіх арганізацыяў меў прыклад прадстаўнікоў народаўсуседзяў беларусаў, а менавіта ўкраінцаў і летувісаў.

Па прыкладу Нью-Ёрку адмыслова беларускія арганізацыі сталі ўтварацца ў Нью-Джэрзі й Ілінойсе, Пэнсыльваніі й Мічыгане. Дзеячы БНР здавалі сабе справу з важнасьці патэнцыйных сілаў, што захоўваліся ў беларускай грамадзе Амэрыкі, падтрымлівалі кантакты зь беларускімі актывістамі ў Амэрыцы, імкнуліся перасылаць артыкулы па беларускім пытаньнні ў амэрыканскія газэты, плянавалі прысылаць у Амэрыку спрактыкаваных беларускіх дзеячаў. Адным з перашых дзеячаў прыехаў у Амэрыку Антон Чарапук, які разам зь некалькімі іншымі актывістамі склікаў у 1920 годзе першыя арганізацыйныя сходы беларусаў у Чыкага.

Шэраг беларускіх дзеячаў, што былі непрыязна настаўленыя да ідэі іміграцыі, зьмянілі сваё стаўленьне, і адзін з такіх дзеячаў, Вацлаў Ластоўскі, падкрэсьліваў, што як паказваюць прыклады летувісаў і ўкраінцаў, кантакты нацыянальных сілаў на Бацькаўшчыне з амэрыканскімі беларусамі маглі б адыграць важную ролю ў адраджэньні Беларусі і ў дапамозе для яе, асабліва ў галіне эканамічнай. Ластоўскі таксама прапаноўваў арганізаваць на амэрыканскія грошы друкарскае прадпрыемства ў Беларусі, што распаўсюджвала б беларускамоўную друкаваную прадукцыю, а прыбытак ад продажу яе ішоў бы фундатарам у Амэрыцы.

З прыездам у ЗША нацыянальных дзеячаў БНР Янкі Чарапука і Язэпа Варонкі ў Чыкага – тагачаны найбольш лічэбны асяродак беларускіх імігрантаў – нацыянальная дзейнасьць сярод беларускай грамады актывізавалася. 1 верасьня 1923 году быў праведзены масавы зьезд беларусаў у Чыкага, і ў выніку працы зьезду паўстала Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Асацыяцыя з кіраўнікамі Варонкам, Макарам Аблажэем, Я. Чарапуком, Паўлам Чопкам, В. Трафімовічам. Беларускія арганізацыі ў Чыкага запачаткавалі ў 1924 годзе масавыя сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка. Затым быў створаны Беларускі Нацыянальны Саюз, які стаў выдаваць з 1928 году першую беларускую газэту ў Амэрыцы "Беларускую Трыбуну", якая з прычыны прыцягненьня шырэйшых колаў беларусаў выходзіла па-расейску. Беларусы ўсьведамленыя бралі чынны ўдзел у 1928 годзе ў прэзыдэнцкай кампаніі дэмакрата Альфрэда Сьміта. Прарасейскія беларусы ўтварылі Рускі рэспубліканскі клюб, які пратрываў нядоўга. Нягледзячы на паразу дэмакратаў на прэзыдэнцкіх выбарах, Беларускі Дэмакратычны Клюб працягваў сваю дзейнасьць і спрычыніўся пазьней да падтрымкі Франкліна Рузвэльта.

У 1930-я гады беларускія арганізацыі ў Чыкага фінансава падтрымлівалі беларускія школы на Бацькаўшчыне, беларускія гімназіі ў Вільні, Клецку і Радашкавічах. Адным з выбітных лідараў беларускай іміграцыі міжваеннага часу быў таксама а. Ян Тарасевіч, што вёў душпастыркую дзейнасьць сярод беларускіх імігрантаў, выдаваў часапіс "Царкоўны Голас" і ў 1941 годзе стаў старшынём новай арганізацыі Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада.

Варонка, Чарапук і Тарасевіч сталі лідарамі-пачынальнікамі беларускага нацыянальнага руху сярод імігрантаў у ЗША, які надалей працягваўся, пашыраўся і прыняў асобнае вымярэньне і сілу пасьля вайны, з прытокам новых імігрантаў, якія ў значнай ступені ўжо мелі нацыянальную сьведамасьць і анікамуністычныя, антысавецкія погляды.

**Віталь ЗАЙКА**

***заканчэньне з бачыны 2***

ства, салідарнасьць, веру ў перамогу, патрыятызм. Але чым можа забясьпечыцца гэты патрыятызм, гэтая салідарнасьць, вера ў перамогу? Расейскай мовай? Блатным шансонам? Расейскімі тэлепраграмамі? Або можа пераносам пытаньня пра мову беларусаў на нявызначаную і, відаць, далёкую будучыню?

Не і не. Толькі прыняцьце сёньня і цяпер, разуменьне і вывучэньне сваіх, не суседавых, каштоўнасьцяў – мовы, культуры, гісторыі, традыцыяў – могуць быць падставаю і апірышчам беларускага патрытызму і салідарнасьці. Толькі прамоўленасьць сёньня, цяпер, прынцыпаў і каштоўнасьцяў, на якіх будзе збудаваная вольная, незалежная, дэмакратычная, сапраўды беларуская Беларусь. Толькі перакананасьць у тым, што ўсемагутны Бог даў беларусам у спадчыну іхную зямлю, гісторыю, трыдыцыі і мову – так, мову – каб яны не адрынулі іх, але баранілі, захоўвалі й песьцілі, і што больш нідзе у белым сьвеце няма лепшага і належнага месца для беларускай мовы, як у новай вольнай Беларусі, скінуўшай хамут постсавецкага аўтарытарызму. Што нідзе інакш як у душы і сэрцы, а таксама ў актыўным карыстаньні кожнага беларускага чалавека мусіць заняць свой належны пасад беларуская мова.

**Віталь ЗАЙКА**

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## Б - як Беларуская мова

– Беларуская мова!
– Цссс. Сьпярша сацыяльнае вызваленьне!
– Ужо?
– Не. Сьпярша аўтаномія.
– Ну як там? Можна?
– Пачакайце. Незалежнасьць, тады астатняе.
– Нарэшце!
– Не-не. Цяпер дэмакратыя.
– Няўжо зараз?
– А зачем вам? Учите английский.
– Вывучыў. Можна цяпер беларускую?
– Are you a white supremacist?

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Сьвяткаваньне Дня Волі ў Саўт-Рывэры

***заканчэньне з бачыны 1***



выкананьні Ганны Шыдловай, "За свабоду сваю я душой пастаю" Я. Купалы ў выкананьні Тацяны Бурак, "Родная мова" М. Танка ў выкананьні Ганны Сарачынскай, урывак зь верша Ларысы Геніюш "Як жыць – дык жыць для Беларусі" Л. Геніюш у выкананьні Валера Мінца, верш Я. Купалы "Хай жа вам так не здаецца, што бяда зацісьне" ў выкананьні Арцёма Няпомнюшчага. Сп-ня Галіна Пазьняк прачытала вершы М. Танка "Ня плач, наш дзень настане...", урывак з паэмы З. Пазьняка "Вялікае Княства", Р. Барадуліна "Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся". Верш Я. Коласа "Родныя вобразы" прачытала Віталіна Кірылава. Прысутныя з прыемнасьцю слухалі сьпевы і вершы, падпявалі і, наагул, вельмі цёпла ўспрымалі выступы.

Потым на прыгожым панадворку Грамадзкага цэнтру адбыўся пікнік, дзе сябры і знаёмыя маглі ўбачыцца пасьля працяглага часу, а прысутныя ўпершыню навязаць кантакты, калегавацца зь землякамі. Надвор'е і прыгожая мясьціна вельмі спрыялі добраму настрою.

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| А. Адамчык | 60 |
| В. Зайка | 60 |
| А. Зыль | 60 |
| В. Лапыш | 60 |
| Т. Надзейка | 60 |
| В. Петрушэнка | 60 |
| С. Скрабко | 60 |
| В. Сьпеталюн | 60 |
| С. Стрэльчанка | 60 |
| А. Троцкі | 60 |
| М. Троцкая | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

### Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Агееў | 30 |
| А. Адамчык | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| А. Зыль | 30 |
| М. Івашчанка | 30 |
| В. Кавалёва | 30 |
| В. Лапыш | 30 |
| К. Макарэвіч | 30 |
| В. Петрушэнка | 30 |
| Г. Шарко | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"** ***Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня ***"Пагоня"***, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні"***. *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***